Cena 60 gr. Цана 60 гр.

# Ніва

NIWA
Tygodnik Z.G. Białoruskiego
Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego

Тыднёвік
Г.П. Беларускага
грамадска-культурнага таварыства

№ 42 (138) БЕЛАСТОК, 19 КАСТРЫЧНІКА 1958 года ГОД III

Беластоцкая восень



Фота - В. Касакоўскі

## МЯЖА*

Мяжа праходзіла зараз жа за хатай. На ёй зрэдку раслі карлікавыя вішні і адна старая яблыня. За мяжу нельга было ступіць. Стары вусаты Андрэй, які заўсёды спорыў з бацькамі, сварыўся за гэта. Мог нават і набіць.

Федзя і Вінцук часта хадзілі гуляць на мяжу. Тут, між гэтых вішнёвых кустоў, быў іх малы, дзіцячы свет. Тут ляпілі хаткі з пяску, пракопвалі «рэкі», выдумоўвалі розныя цікаўнасці на тэму замкаў і баек аб каралевічах. Было іх у бацькоў толькі двое. Увесь дзень праводзілі разам. Федзя быў старэйшы, Вінцук малодшы. Вечарамі, асабліва ўзімку, да бацькі сходзіліся суседзі. Федзя з Вінцуком з цікаўнасцю прыслухоўваліся да доўгіх размоў аб тым, хто з кім у вёсцы пабіўся, хто з кім судзіцца за зямлю. Цікавымі былі гэтыя размовы.

Пасля такіх размоў Федзя часам быў суддзёю і судзіў Вінцука за мяжу, або за што іншае.

Бестурботныя дзіцячыя гады прамінулі, як з вадою, і засталіся далёка...

* * *

Людзі здзіўляліся. Хлопцы выраслі, як волаты. Работа гарэла ў іх руках. Любілі і працаваць і бавіцца. Прападалі за імі дзяўчаты.

Федзя ажаніўся першы. Неяк неспадзявана разгарэлася першая сварка. Стаялі раз'юшаныя адзін насупраць другога. Пасварыліся за працу. Вінцук гаварыў Федзі, што не будзе працаваць і на яго, і на жонку і на ўсіх.

З таго часу сваркі пасыпаліся, як з рукава. Бацькі з непакоем глядзелі на дзяцей. Часам падтрымвалі аднаго, часам другога. Вядома, дзеці...

— Татка, распішы зямлю, нам разам не жыць, — шапталі адзін перад другім старому Міколе. — Пойдзем на сваё і спакой будзе.

«Як жа, усё жыццё працаваў, забягаў, каб было ўсяго як найбольш, а цяпер аддаць? Не!» — думаў стары бацька.

А сыны настойвалі.

Узяў стары ў кошык курку, масла, мёду і пайшоў да адваката. Размова з адвакатам пайшла гладка. Вяртаючыся з горада, бацька ўжо ведаў, як запісаць. Не хацеў ён на старасць пайсці ў старэчы дом, як гэта здарылася з Сяргеем з іх вёскі пасля таго, як распісаў гаспадарку на дзяцей.

Акт запісу быў кароткі і сухі. Фёдару К. запісаны 2 гектары зямлі, дагадуе бацькоў да смерці і па іх у спадчыне застанецца яму яшчэ 2 гектары. Вінцуку К. — 2,5 гектара зямлі, больш бацька не запісаў. Мала.

Дамоў вярталіся разам на адной фурманцы. Вінцук сядзеў ззаду, звесіўшы ногі з драбін і нервова грыз сцяблінку травы.

— Два з паловай гектары, гэта ж з бяды не вылазіць, калі я што прыдбаю на гэткай гаспадарцы? — нахабная думка не выходзіла з галавы Вінцука, — Несправядлівасць.

Кроў, падмешаная выпітай гарэлкай, хваляй наплывала ў галаву. Непадалёку вёскі ён саскочыў з воза і пайшоў у бок сваёй дзялянкі.

Стары бацька клікнуў яго некалькі разоў, але Вінцук не адгукнуўся. Бацька быў такім самым ворагам яму, як і Федзя.

Падыйшоўшы крыху, ён сеў на камені і закурыў. Перад ім прасціралася роўнае засеянае поле, па якому заўтра павінна была прайсці мяжа падзелу.

(Працяг на стар. 4)

*) Рэч дзеецца ў кастрычніку г. г. у Дуброўскім павеце.

## З жыцця БГ-КТ

Варшаўскі Аддзел БГ-КТ арганізуе курс беларускай мовы. Запісы прыймае сакратарыят Праўлення Аддзела БГ-КТ у Варшаве, вул. Сенатарская 8.

*

Гарадскі Аддзел БГ-КТ у Беластоку на дзень 10 кастрычніка налічвае 216 членаў.

*

Падаецца да ведама зацікаўленых, што арганізаваныя Праўленнем Гарадскога Аддзела БГ-КТ у Беластоку бясплатныя сеансы савецкіх фільмаў будуць адбывацца ў будынку ТПП-Р (на партэры), вул Сянкевіча 1. Паведамленні чытайце ў «Ніве».

*

Ажыўляецца праца Аддзела БГ-КТ у Міхалове (Беластоцкі павет). На апошнім пасяджэнні Праўлення Аддзела члены Праўлення абавязаліся пашырыць дзейнасць Таварыства.

Да канца кастрычніка Праўленне Аддзела запланавала арганізаваць гурткі Таварыства ў вёсках: Пянькі, Зубры, і Шымкі.

Будзе арганізаваны драмгурток пры гуртку Таварыства ў Міхалове.

*

У вёсцы Ляўкі (Бельскі пав.) арганізаваўся гурток БГ-КТ, які налічвае 13 членаў. Старшынёй выбран Уладзімір Дземянюк. У бліжэйшы час будзе арганізаваны мастацкі гурток. Усе члены абавязаліся выпісваць «Ніву», наладжваць штотыднёвыя дыскусіі над газетай і распаўсюджваць яе ў аколіцы.

*

Арганізаваўся таксама гурток БГ-КТ у вёсцы Храбалы (Бельскі пав.), які налічвае каля 10 членаў. Старшынёю з'яўляецца Іван Дамброўскі.

## Народныя камуны Кітая

*Штотыднёвік «Пекінг Рэв'ев», які выдаецца ў Пекіне на англійскай мове, у сваім апошнім нумары змяшчае апіс камун, якія ўтвораны ў палове жніўня ў павеце Сюшуэі (правінцыя Гапэі).*

*Ніжэй падаем тэкст рэпартажа з невялікімі скарачэннямі.*

...Народная камуна ў многіх выпадках розніцца ад сельскагаспадарчых кааператываў.

Па-першае, значна большая. У кааператыве налічваецца ў сярэднім ад ста да некалькіх сот сем'яў, а камуны ў павеце Сюшуэі налічваюць каля 10 тыс. будынкаў, г. зн. ад 30 да 50 тысяч асоб. У камуне ёсць значна больш зямлі. Большая колькасць рабочай сілы і рэзерваў, ствараюць магчымасці камунам разгарнуць у шырэйшым маштабе будаўніцтва, а таксама хутчэй павялічыць вытворчасць.

Так, як кааператывы займаюцца толькі і выключна сельскай гаспадаркай, так камуны, апрача сельскай гаспадаркі, займаюцца яшчэ лясніцтвам, жывёлагадоўляй, рыбалоўствам і іншымі таму падобнымі галінамі гаспадаркі.

Як грамадская адзінка яны спалучаюць у цэласць прамысловасць, сельскую гаспадарку, гандаль, асвету і вайсковыя справы.

Па-другое, народная камуна мае з натуры больш сацыялістычны характар і гарантуе поўны, калектыўны спосаб жыцця.

Калі земляробы - кааператыўшчыкі пераходзяць у камуну, тады ўсе сельскагаспадарчыя прылады, вупражная жывёла, будынкі і дрэвы, якія раней былі іх уласнасцю, пераходзяць ва ўласнасць камуны.

Народныя камуны ў Сюшуэі ўвялі ўжо на спробу сістэму выплачвання сялянам пенсіі, а таксама сістэму забеспячэння, згодна з якой і памяшканнямі, і адзеннем, і жыўнасцю забяспечвае рабочых камуна.

...«Арганізавацца, як войска, працаваць, быццам весці барацьбу, жыць калектыўна». — вось лозунг камун, які з'яўляецца бадай што найлепшым адлюстраваннем жыцця ў Сюшуэі.

Калі гаворым аб арганізацыі накшталт войска, то трэба сказаць, што Сюшуэі заслугоўвае назвы павета грамадзян — салдатаў. Дзе ні падайся, спаткаеш (ранenька да працы ў полі, і ўвечары) маладых міліцыянераў, якія з вінтоўкамі ў руках праводзяць заняткі. У рады міліцыі запісаліся ўсе здольныя да вайсковай службы члены камун, аднак жа гэтыя маладыя людзі з вінтоўкамі (мужчыны 16—30-гадовым і жанчыны 17—22 гадовым узросце), з'яўляюцца «хрыбтам» міліцыі, утвараюць яе аснову. Апрача таго, яны ўтвараюць штурмавыя атрады працы. Калі патрэбна выканаць нейкую асабліва цяжкую работу ў полі, калі патрэбны дадатковыя рукі да таго, каб як найхутчэй выканаць нейкую задачу, тады пасылаюцца ў назначанае месца «штурмавыя» атрады.

Агульныя сталовыя, дзіцячыя яслі і «шчаслівыя дамы» для старэчын — вось што найбольш кідаецца ў вочы ў вёсках Сюшуэі.

...На 318 тыс. насельніцтва Сюшуэі 312 тыс. харчуюцца ў агульных сталовых. Сталовак такіх ёсць 1.554; працуе ў іх 6.882 кухароў. Яны заступаюць працу 55 тыс. кухароў. Уявіце сабе, як клапатліва апякуюцца агульнымі сталовымі сяляне. Увесь персанал, кухары і вясковыя кадры працуюць над далейшым паляпшэннем якасці харчоў і рацыяналізацыяй працы адміністрацыі. Між іншым, вельмі слушна сказаў адзін з кухароў: — «Хочам, каб нашыя блюды былі лепшымі ад найлепшых хатніх харчоў, бо калі ў агульнай сталовай ежа не лепшая ад хатняй, то навошта гэтыя сталовыя?»

Мусіць, найбольш удзячны жанчыны, таму што агульныя сталовыя вызвалілі іх з хатніх клапатлівых абавязкаў, звязаных з кухняй...

Для прыкладу апішам вам вёску Гсегфанг у Шангчуанг. Тут паўстае вёска новага тыпу — вёска - горад. Шырокая новая шасэ, званая «Дарогай Піянераў», пабудаваная маладымі піянерамі, вядзе ад галоўнай шасэ да вёскі. Насупраць плошчы, на якой адбываюцца сходы і мітынгі членаў камуны знаходзяцца палеткі, дзе час-ад-часу наладжваюцца конкурсы жывёлагадоўлі.

Ідучы далей, падыходзім да першага «участка паэзіі і мастацтва», дзе на сценах выпісаны вялікімі іерагліфамі вершы і намаляваны разнавідныя карціны. Яны адлюстроўваюць пачуцці сялян, якія выявіліся ў гэтым годзе, тзв. годзе «вялікага скоку». Гэта сапраўдная публічная галерэя мастацтва. На заходнім баку ёсць яшчэ адзін участак паэзіі і мастацтва.

(Працяг на стар. 2)

# Матэрыяльная база дзейнасці БГ-КТ

Да 1958 г. дзейнасць Таварыства была амаль поўнасцю фінансавана скромнымі датацыямі дзяржаўнага бюджэта. Атрыманыя грошы выкарыстоўваліся ў значнай меры на ўсялякія адміністрацыйныя выдаткі, затое выдаткі на падставовую дзейнасць былі вельмі абмежаваныя, што ўстрымоўвала развіццё асветнай, грамадскай і культурнай працы Таварыства.

У 1957 г. адміністрацыйныя выдаткі склалі 50 прац. агульнай сумы, выдаткаванай ў гэтым годзе.

Галоўнае Праўленне Таварыства пераканалася ў тым, што неабходным з'яўляецца змяненне плана фінансавых расходаў Таварыства, прымаючы, што дзейнасць Таварыства не павінна быць цяжарам для скарбу дзяржавы і ўтрымацца на ўласных даходах. Апрача таго, прызнана абавязковым у 1959 г. змяніць структуру грашовых выдаткаў Таварыства такім чынам, каб пераважная сума грашовых сродкаў была выдана на асноўную дзейнасць, а паменшыць расход на адміністрацыйную дзейнасць.

Праект бюджэта на 1959 г. прадугледжвае на адміністрацыйную дзейнасць — 39 прац. агульнага бюджэта, на іншую, так сказаць, асноўную дзейнасць (культурную, асветную і грамадскую) 61 прац. агульнага бюджэта. Варта адзначыць, што ў 1957 г. на адміністрацыйныя выдаткі было расходвана 44—45 прац.

Для выпрацавання ўласных фінансавых сродкаў Таварыства паклікала прамыслова - гаспадарчае праўленне „Betesca", як установу, якая мае права арганізаваць прамыслова - гаспадарчую дзейнасць на аснове поўных разлікаў звонку. Партыя і адпаведныя дзяржаўныя ўлады падтрымліваюць такую накіраванасць Таварыства, аднак звяртаюць увагу на тое, каб не накіроўвалася галоўным чынам на гаспадарчую дзейнасць, таму што ў такім выпадку асноўны напрамак працы застаўся б скажоным.

Таму гэты напрамак дзейнасці Таварыства павінен быць так распланаваны, каб толькі выпрацоўваць неабходныя сродкі на акрэсленыя патрэбы зацверджаны ў праекце бюджэта.

Частка актыву Таварыства лічыць, што „Betesca" павінна заняцца гаспадарчай актывізацыяй мясцовасцей, дзе пражывае беларускае насельніцтва. Погляд гэты не ўласцівы і не слушны, таму што ў гэтым выпадку БГ-КТ уваходзіла б у кампетэнцыі адпаведных мясцовых улад, якія абавязаны гэта рабіць і якія маюць адпаведныя фінансавыя сродкі на гэта.

Таварыства павінна інспіраваць і актывізаваць беларускае насельніцтва да арганізавання кааператываў адной або некалькіх галін, вытворчых кааператываў у межах існуючага заканадаўства кааператцэнтраў Польшчы. Калі ў такім кааператыве 50 прац. працаўнікоў будуць членамі Таварыства, тады Таварыства мае права падпарадкаваць кааператыў сабе. „Betesca" павінна выпускаць тавары атракцыйныя, вялікі недахоп якіх адчуваецца на рынку. „Betesca" павінна быць як найбольш рэнтабельнай. Яшчэ ў 1958 г. „Betesca" імкнецца адкрыць два вытворчыя прадпрыемствы: прадпрыемства вырабу штучных субстанцый і хімічных рэактываў у Варшаве і хлебабулачнае прадпрыемства са спажыўчымі заменнікамі ў Гайнаўцы. Ёсць нават адпаведныя інжынерна - тэхнічныя сілы, якія. у асноўным, рашаюць аб планавай вытворчасці.

У тым выпадку звяртаецца ўвага на тое, ці прадукаваны матэрыял будзе мець свайго пакупніка на рынку, а таксама ці абыдзецца мінімальнымі грашовымі капіталаўкладаннямі. Прэзідыум Галоўнага Праўлення лічыць, што „Betesca" павінна разгарнуць працу, не карыстаючыся банкавымі крэдытамі. Толькі ў такім выпадку можна лічыць на здаровае і ўласцівае эканамічнае развіццё працы. Такія абставіны змушаюць гаспадарыць як найбольш дакладна і рэнтабельна.

Галоўнае Праўленне неабавязана падтрымліваць фінансавы бок „Betesci". „Betesca" павінна само выпрацаваць усе патрэбныя капіталаўкладанні. Самым важным у працы „Betesci" з'яўляецца тое, што няма адпаведных законных інструкцый для рэгуліравання асновы дзейнасці прадпрыемстваў гэтага тыпу. Апрача таго, трэба бачыць вялікія цяжкасці, звязаныя з забеспячэннем і збытам. „Betesca" можа выпускаць адносны тавар толькі тады, калі мае канкрэтны заказ, ні ў якім выпадку нельга прадукаваць на склад. Інакш кажучы, дзейнасць „Betesci" залежыць ад колькасці маемых заказаў.

Развіццё прадпрыемства пры такім эканамічна-гаспадарчым размеркаванні з'яўляецца вельмі цяжкім, доўгатэрміновым, але адначасова ёсць гарантыя, што, калі дзейнасць пачне разгортвацца, яна будзе карыснай, моцнай, і не пагражаюць ёй ніякія фінансавыя рызыкоўнасці.

В. ЛАПКОУСКІ
Дырэктар „Betesci"

*З новых польскіх перакладаў.*

**Janka Kupała**

## MYŚLI

**Niespokojne myśli rojne**
**Snują się po duszy,**
**Na świat cudny na świat ludny**
**Serce rwie się z głuszy.**

**Ponad góry ponad chmury**
**Z szumem wartkiej rzeki**
**Dalej, wyżej, ptakiem chyżo**
**Pomknę w świat daleki.**

**Serce w słońcu chce gorąco**
**Żyć w wyśnionych dalach.**
**Gorzki losie, marny losie,**
**W piekle ciebie spalę!**

**I z niewoli do tej doli**
**Jak lew śmiały ruszę.**
**Dosyć, bracie, w kurnej chacie**
**Snami karmić duszę!**

**Świat ogromny, los bezdomny,**
**Pieśni w świecie, jęki**
**Wokół żyją, falą biją,**
**Nęcą sławy dźwiękiem.**

**Idą ludzie w krwawym trudzie**
**Pochodnie w ich rękach,**
**Nie ma nocy, płoną oczy,**
**Pomruk w marszu dźwiękach.**

**Ze snu budzą, duszę łudzą**
**Zapłatą za znoje,**
**Nawołują, podejmują**
**Znów na prawe boje.**

**Myśl się snuje, coś zwiastuje**
**W walce ukojenie.**
**Wzejdzie zorza, łzy do morza**
**Popłyną z cierpieniem.**

**Myśl jak strzała w ogniu cała**
**W tej stronie zabłyśnie,**
**Skąd z jutrzenką mnie piosenką**
**Strumień prawdy tryśnie.**

**Dalej, wyżej, ptakiem chyżo,**
**Szlak otwarty przecie!**
**Trudno, bracie, w kurnej chacie,**
**Zobaczę jak w świecie.**

**1905—1907**

Пераклаў з беларускай мовы АСТАП ЛАПСКІ

## Весткі з БССР

4 кастрычніка г. г. уведзена ў дзеянне першая чарга самай магутнай у Беларусі Васілевіцкай ДРЭС.

Васілевіцкая ДРЭС адкрывае вялікія магчымасці для далейшага развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі Палесся і многіх іншых раёнаў рэспублікі. Пуск толькі першай чаргі ДРЭС дае магчымасць выпрацаваць электраэнергіі ў некалькі разоў больш, чым выпрацоўвалі яе ўсе электрастанцыі дарэвалюцыйнай Беларусі.

За паспяховае выкананне па будаўніцтву і ўводу ў эксплуатацыю першай чаргі Васілевіцкай дзяржаўнай раённай электрастанцыі ўказам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР узнагароджана праўленне будаўніцтва Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Ганаровымі граматамі і Граматамі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР узнагароджана таксама 82 рабочых, інжынерна - тэхнічных работнікаў і служачых будаўніцтва Васілевіцкай ДРЭС.

*

29 верасня г. г. у Мінску, у памяшканні Беларускага таварыства культурнай сувязі з заграніцай адбыўся ўстаноўчы сход Беларускага аддзялення Таварыства савецка - кітайскай дружбы.

У склад праўлення выбраны відныя грамадскія дзеячы, рабочыя, калгаснікі, вучоныя, работнікі літаратуры і мастацтва, усяго — 43 чалавека.

Старшынёй праўлення выбран старшыня Беларускага рэспубліканскага Савета прафсаюзаў І. Макараў, намеснікамі старшыні — старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР П. Броўка, акадэмік АН БССР М. Безбародаў, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі АН БССР Н. Каменская, сакратар ЦК ЛКСМБ Г. Крыулін.

*

У сталіцы Узбекістана — Ташкенце нядаўна прайшоў фестываль беларускіх фільмаў. На экранах лепшых кінатэатраў горада ішлі карціны: «Нашы суседзі», «Канстанцін Заслонаў», «Шчасце трэба берагчы», «Дзеці партызана», «Міколка — паравоз» і іншыя творы кінамастацтва Беларусі.

Для ўдзелу ў фестывалі ў Ташкент ездзіла дэлегацыя кінаработнікаў Беларусі, якая прыняла удзел у сустрэчах з гледачамі і работнікамі кінематаграфіі Узбекістана.

У дні фестывалю адбылася прэм'ера новага беларускага фільма «Чырвонае лісце» і прайшла з поспехам.

У бліжэйшы час намячаецца ў Мінску кінафестываль узбекскіх фільмаў з удзелам работнікаў кіно Узбекістана.

СЯРГЕЙ ПРЫТЫЦКІ 2)

# У ІМЯ БУДУЧЫНІ

Вясной 1933 года польскія ўлады вырашылі любой цаною зламаць супраціўленне сялян вёскі Баранава. З гэтай мэтай яны арыштавалі больш за 30 камуністаў, камсамольцаў і беспартыйных юнакоў. Сярод іх былі Косця і Арсень Бараноўскія, Міхась Шулейка, Косця Говар, Нарэйка і іншыя (некаторыя з іх, напрыклад, Говар, Шулейка, і цяпер жывуць і працуюць у вёсцы Баранава). Усіх арыштаваных адправілі ў паліцэйскі ўчастак у вёску Калеснікі, дзе страшэнна каталі. Тых, хто ад катаванняў быў у непрытомнасці, сцягвалі ў падвал. Яны ж, скатаваныя да паўсмерці, калі прыходзілі да памяці і чулі, што наверсе катуюць новую ахвяру, хорам крычалі: «Трымайся, не выдай!» І ўсе, як адзін, вытрымалі, ніхто не выдаў таварышаў, не выдаў кіраўнікоў - камуністаў.

У 1933 годзе з гэтымі таварышамі я сядзеў у адной камеры Гродзенскай турмы. Якія ж гэта былі харошыя хлопцы!

Успамінаецца такі эпізод. Сярод арыштаваных быў адзін юнак з беднякоў. Імя яго было Захар, прозвішча не памятаю. Ён не быў ні камуністам, ні камсамольцам; не ўмеў ні чытаць, ні пісаць. Калі яго катавалі, дык пыталіся, у каго ён верыць: у пана Бога ці ў Косцю Бараноўскага (Бараноўскі быў камуніст, арганізатар барацьбы супраць камасацыі ў вёсцы Баранава). Захар, не задумваючыся адказваў, што верыць у Бараноўскага. Яму дасталося больш за ўсіх. Яго білі да страты прытомнасці, прыводзілі да памяці і зноў катавалі, патрабуючы, каб ён выракся сваіх перакананняў. Але юнак цвёрда стаяў на сваім.

Даведаўшыся пра катаванні арыштаваных таварышаў, падпольны райком партыі вырашыў склікаць у мястэчку Індура мітынг і арганізаваць масавы паход у Калеснікі, каб вызваліць арыштаваных.

У вёсцы Лаша, а потым у Індуры былі арганізаваны многалюдныя мітынгі. Але паход у Калеснікі не ўдаўся, ён быў разагнаны ўзброенымі да зубоў паліцэйскімі, накіраванымі з Гродна.

Пасля мітынгаў па ўсім Гродзенскім павеце пачаліся масавыя арышты. Дзесяткі таварышаў, у тым ліку шмат якія з вёскі Баранава, былі асуджаны на доўгія гады турэмнага зняволення. Але ніхто з іх не каяўся. Яны ганарыліся тым, што вёска Баранава стала прыкладам у барацьбе працоўных Заходняй Беларусі супраць ненавіснай камасацыі.

Нацыянальна - вызваленчая барацьба працоўных Заходняй Беларусі, узначаленая КПЗБ, не спынялася ні на адну хвіліну з моманту акупацыі Заходняй Беларусі і аж да моманту яе вызвалення.

Асабліва разгорнутая і вострая была гэтая барацьба ў 1926 — 1927 гадах, калі Кампартыі ўдалося стварыць легальную арганізацыю — «Беларускую Сялянска - Рабочую Грамаду».

Пра размах дзейнасці «Грамады», якая мела за сваю задачу барацьбу за 8-гадзінны рабочы дзень, за зямлю сялянам без выкупу, за права Заходняй Беларусі на самавызначэнне, аж да аддзялення, пра яе ўплыў на шырокія масы працоўных сведчыць ужо тое, што яна за адзін год вырасла да 100 тысяч чалавек. На чале Грамады стаялі беларускія паслы ў польскі сейм Тарашкевіч, Валошын і інш.

У пачатку 1927 года, урад Пілсудскага, напалоханы ростам уплыву Грамады, прыняў рашэнне ліквідаваць гэтую арганізацыю. Былі арыштаваны Тарашкевіч і Валошын і тысячы найбольш актыўных членаў Грамады. Услед за гэтым па ўсёй Заходняй Беларусі пракацілася хваля арыштаў членаў КПЗБ, пачаўся разгром партыйных арганізацый.

Нацыянальна - вызваленчая барацьба крыху звузілася, але не спынілася. Яна набыла іншыя формы. Традыцыі Грамады захаваліся ў культурна - асветнай дзейнасці гурткоў ТБШ (Таварыства беларускай школы), якія былі пад уплывам КПЗБ. Неўзабаве пасля разгрому Грамады была створана таксама легальная арганізацыя Беларускі Рабоча - Сялянскі клуб «Змаганне», якая праіснавала да 1930 года. У гэты перыяд у шмат якіх вёсках Заходняй Беларусі мелі месца выступленні навучэнцаў, байкот імі польскіх школ.

Працоўныя Заходняй Беларусі вялі няспынную нацыянальна - вызваленчую барацьбу таму, што ім быў ненавісны польскі акупацыйны рэжым, які асуджаў іх на страшэнную галечу і нястачы. У гэтай барацьбе яны выступалі за ўз'яднанне з Савецкай Беларуссю, поспехі якой у будаўніцтве новага сацыялістычнага жыцця былі добра ім вядомы, нягледзячы на граніцу і тэрор.

Барацьбу працоўных Заходняй Беларусі натхнялі рэвалюцыйныя песні. Часамі ідзеш зімовай ноччу па лесе, і раптам даляцяць да цябе словы дружнай, заліхвацкай песні:

Нас не любяць, нас баяцца
Поп кудлаты і кулак.
Парашыў за працу ўзяцца
Камсамольскі маладняк.

*(Працяг на стар. 6)*



© PDF: Kamunikat.org 2022
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022

